# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ

№3 (262)
сакавік 2024

БАЦЬКАЎШЧЫНА

Інфармацыйны бюлетэнь • Супольнасць беларусаў свету “Бацькаўшчына”


## У НУМАРЫ:

### Мэр Філадэльфіі афіцыйна прызначыла 25 сакавіка Днём беларускай спадчыны

Ганаровая цырымонія прайшла 25 сакавіка падчас святкавання Дня Волі каля будынку мэрыі.

Старонка 5






# Уладзімір Арлоў: АГУЛЬНАЯ ГІСТОРЫЯ ЛІТОЎЦАЎ І БЕЛАРУСАЎ – ЗБРОЯ СУПРАЦЬ “РУССКОГО МИРА”

Віленская сустрэча з пісьменнікам Уладзімірам Арловым усё ж адбылася ўвечары 22 сакавіка. Гэтым разам, як і ў Коўне напярэдадні, вечарыну наведалі літоўскія госці, у тым ліку тыя, хто называе знакамітага пісьменніка “галоўным ідэолагам літвінізму”. Дыскусіяй закіды некаторых з іх назваць цяжка, бачна, што сустрэчы з занепакоенымі актывістамі будуць мець працяг.

Балтыйскі тур Уладзіміра Арлова зладзіў яго выдавец і заснавальнік найбуйнейшай беларускай інтэрнэт-бібліятэкі (а цяпер яшчэ і выдавецтва) Kamunikat.org Яраслаў Іванюк.

Сустрэча ў Коўне была таксама пад пагрозай зрыву, паведаміў Яраслаў Іванюк, але сваю дапамогу прапанаваў дацэнт Універсітэта Вітаўта Вялікага, дырэктар Інстытута Вялікага Княства Літоўскага Русціс Камунтавічус. У выніку Уладзімір Арлоў прэзентаваў свае кнігі ва ўніверсітэце.

Як сказаў сам Русціс Камунтавічус на адкрыцці імпрэзы ў Вільні, яму, які са студэнтамі шмат чытаў і вывучаў творы Арлова, зараз “вельмі няўтульна, што такія рэчы робяцца ў Літве”, што прыходзіцца “пераносіць з аднаго месца ў іншае сустрэчу з такім легендарным аўтарам”.

Нагадаем, што скандальнасць гэтаму туру Уладзіміру Арлова надалі допісы літоўскіх барацьбітоў з так званым літвінізмам, арганізаваных слядоў якога не знайшоў і Дэпартамент нацыянальнай бяспекі Літвы, як сведчыць яго зусім нядаўняе паведамленне. У выніку розгаласу, які атрымаў у сацыяльных сетках допіс вядомага блогера Жыльвінаса Світоюса, Цэнтр беларускай культуры і супольнасці ў Вільні адмяніў сустрэчу з Уладзімірам Арловым. “Частка літоўскай супольнасці занепакоеная тым, што ў Вільню прыязджае “галоўны ідэолаг літвінізму”, цэнтр “не можа гарантаваць ні бяспекі Арлова, ні нашай”. Беларуская арганізацыя “Дапамога” прапанавала новае месца – Замак. Хоць ён і знаходзіцца на ўскрайку горада, мерапрыемства наведала шмат слухачоў.

### Агульны скарб

Уладзімір Арлоў на пачатку імпрэзы падзякаваў Літве, якая дала прытулак шматлікім беларусам, што “ў гэты драматычны для нашай найноўшай гісторыі час былі вымушаныя пакінуць сваю Айчыну”.

“Я даўно, са студэнцкіх гадоў, люблю Літву. Мяне перакладалі шмат на літоўскую мову, я ганаруся тым, што супрацоўнічаю з літоўскімі паэтамі, гісторыкамі і працягваю супрацоўнічаць, у тым ліку з прысутным тут Русцісам Камунтавічусам”, – сказаў пісьменнік.

“У маім уяўленні наша шматвяковая і агульная – літоўцаў і беларусаў – гісторыя, еўрапейская гісторыя – гэта наш велізарны скарб. І ўсведамленне гэтай гісторыі – магутная зброя ў беларускім і літоўскім супрацьстаянні агрэсіўнай ідэалогіі „русского мира“.

Працяг на старонцы 2.

навіны

# Уладзімір Арлоў: агульная гісторыя літоўцаў і беларусаў – зброя супраць “русского мира”

Працяг са старонкі 1.

Гэта ідэалогія імкнецца пераканаць беларусаў, як і ўкраінцаў, што яны не з’яўляюцца асобнай нацыяй, што мы частка „агульнарасейскай“ нацыі, і вось гэта наша спадчына агульная, наша гісторыя магутна гэтаму супрацьстаіць. Для нас гэта велізарны скарб”. І пра заяўленую тэму сустрэчы: “У маім уяўленні дзень 25 сакавіка абавязкова некалі будзе галоўным дзяржаўным святам у вольнай, незалежнай, еўрапейскай Беларусі, якая з Літвой сустрэнецца ў Еўразвязе”.

Не абмінуў Уладзімір Арлоў і значэнне Вільні для беларускага нацыянальна-вызвольнага руху, пачаўшы з “правадыра паўстання на землях Літвы і Беларусі, наша першага нацыянальнага палітыка Кастуся Каліноўскага”: “Сёння мы, прыехаўшы ў Вільню, першым чынам наведалі помнік яму і ягоным паплечнікам. Менавіта Каліноўскі са сваімі аднадумцамі стаяў ля вытокаў беларускай нацыянальнай ідэі. Паўстанцы мелі сваю газету на беларускай мове – „Мужыцкую праўду“, цэлы корпус дакументаў на беларускай мове. (…) І ў шэрагах паўстанцаў са зброяй у руках змагаліся супраць расейскіх каланізатараў беларускія паэты і пісьменнікі. І вось тады быў ужо зроблены выбар – Каліноўскі і яго аднадумцы марылі ўжо не пра аднаўленне ВКЛ альбо Рэчы Паспалітай, яны марылі ўжо пра вольную рэспубліканскую будучыню для народаў былых РП і ВКЛ”.

Расповед пра раней выдадзеныя і зусім новыя кнігі перарываўся на музычныя паўзы – з гітарай выступіў сын пісьменніка Раман Арлоў.

### Чыё ВКЛ і дзе сталіца?

Арганізатары прасілі задаваць пытанні па тэме – угодкі БНР, але, літоўскія актывісты цікавіліся іншым. “Дыскусія” часам выглядала як спроба злавіць спадара Арлова на нейкай, на думку апанентаў, няпраўдзе. Кшталту: а вось ці казалі вы, што Навагрудак – першая сталіца Літвы, ці вы спрабуеце – “і ў нас ёсць відэа!” – аддзяліць сучасную Літву ад Вялікага Княства Літоўскага.

Было пытанне да фразы ў кнізе Уладзіміра Арлова і Генадзя Сагановіча “Дзесяць вякоў беларускай гісторыі”, у якой гаворыцца, што ў 1387 годзе Вільня была першым беларускім горадам, які прыняў Магдэбургскае права. “Кніга напісана ў суаўтарстве, але меўся на ўвазе горад ВКЛ, тады наш агульны горад – і беларускі, і літоўскі. Ніколі я не



Уладзімір Арлоў, Русціс Камунтавічус, кіраўніца арганізацыі “Дапамога” Наталля Калегава

ставіў пад сумнеў, чыя Вільня, не трэба прыпісваць мне і суаўтару тое, чаго няма”, – адказаў Арлоў.

Арлоў і Камунтавічус спрабавалі тлумачыць аўдыторыі пра дыскусійнасць гістарычных версій: “Беларусы лічаць, што першая сталіца – Навагрудак; у Літве, наколькі вядома, кажуць пра Кярнаве”. Але адчувалася, што дыскусійнасць – гэта не тут і цяпер. Літоўская актывістка, як было бачна, нават трохі здзівілася адказу Арлова на пытанне, якой нацыянальнасці былі Вітаўт, Міндоўг і іншыя князі. “Безумоўна, яны былі балцкага паходжання”, – прамовіў пісьменнік. “Балцкага?” – ажно перапытала дзяўчына.

Літоўцаў абражае, калі, гаворачы па-беларуску ці па-руску, Літву называюць Летувой, а іх летувісамі. На іх думку, ужыванне Lietuva ў славянскай мове наўмысна адмяжоўвае сённяшнюю Літву ад гістарычнай. То бок, калі беларус ужывае гэтае слова, гаворачы па-літоўску (а па-літоўску інакш як Lietuva і не скажаш), то гэта цалкам нармальна. Як было бачна, для беларускага пісьменніка, як і для многіх удзельнікаў імпрэзы, гэта было адкрыццём. Як, напэўна, адкрыццём і для літоўскай актывісткі стала тое, што назва “Белоруссия”, якую яна дапусціла ў адным з пытанняў, абражае беларусаў. Дарэчы, пасля адказу Уладзіміра Арлова на пытанне пра Летуву Жыльвінас Світоюс пакінуў сустрэчу, сказаўшы: “Усё зразумела”. Потым, засмучаны, чакаў паплечнікаў на першым паверсе Замка.

Своеасаблівы вынік дыскусіі падвёў актывіст Гаральдас Даўмантас, чалец Саюза стральцоў Літвы: “Бачыце, калі ёсць вольнасці ў тэксце, нават калі гэта тэкст 2000-там-нейкага года, гэтыя вольнасці будуць (у сваіх мэтах) выкарыстоўвацца некаторымі людзьмі. Я бачыў некаторыя старыя запісы вашых выступаў, і мне падаецца, у нас ёсць пра што пагаварыць. Вы бачыце, як гэта выкарыстоўваецца ў палітычных мэтах і вось чаму трэба быць заўжды дакладнымі. Я жадаю вам і вашым калегам большай дакладнасці, бо ў нас ёсць грамадства, якое патрабуе адказаў потым ад беларусаў, якія жывуць тут, у Літве. І гэтыя беларусы вымушаныя потым выбачацца за ўсіх тых, хто дазваляе сабе нейкія філасафічныя вольнасці”.

“Гэта рэальнасць, нам трэба зараз быць вельмі дакладнымі ў любых выказваннях і словах. І працягваць размаўляць з літоўцамі, бо толькі так можам прыйсці да нечага агульнага ў гэтых спрэчках. Абавязкова размаўляць”, – падзяліўся меркаваннем адзін з беларускіх актывістаў.

“Я не разумею гэты ўзровень аргументацыі ў так званай дыскусіі. Я размаўляў са Світоюсам перад пачаткам імпрэзы – здаецца, мы пачулі адзін аднаго. Потым пачынаюцца рэальна дзіўныя пытанні. Але ў Коўне, павер, былі яшчэ больш дзіўныя. Думаю, трэба сапраўды зладзіць круглыя сталы, сустрэчы з літоўскімі актывістамі і беларусамі. Трэба паспрабаваць пачуць адзін аднаго”, – сказаў Русціс Камунтавічус напрыканцы гэтай незвычайнай імпрэзы.

Рыгор Сапежынскі, budzma.org

# Рада БНР падпісала дэкрэты аб узнагароджаннях за заслугі перад беларускім народам

У 106-ю гадавіну абвяшчэння незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі Старшыня Рады БНР Івонка Сурвілла падпісала дэкрэты аб узнагароджаннях за заслугі перад беларускім народам.

“Упершыню з 1950 года здзейснена ўзнагароджанне тытуламі кавалера Ордэну Пагоні, з наданнем адзнакі Крыжу Ордэну Пагоні. Імі адзначаны палітык **Зянон Пазьняк** – за найважнейшы ўнёсак у здабыццё незалежнасці Беларусі, нацыянальнае адраджэнне, абарону дэмакратыі, праваабаронца **Алесь Бяляцкі** – за выбітныя заслугі маральна-грамадскага лідарства нацыянальнага маштабу на абароне грамадзянскіх і нацыянальна-культурных правоў і законнасці Беларусі ў варунках асабістае небяспек, а таксама два палітычныя зняволеныя, чые імёны пакуль не апублічваюцца з меркаванняў асабістай бяспекі. Гэтай жа ўзнагародай адзначаныя два рэлігійныя і духоўныя лідары нацыянальнага маштабу, чые імёны пакуль не апублічваюцца.

Медалём Ордэну Пагоні адзначаныя вяр і вайсковы арганізатар у батальёне “Волат” з дадатковай вайсковаю адзнакаю і адзнакаю за мужнасць, дырэктар “Беларускага дому” у Варшаве **Алесь Зарэмбюк**, намеснік камандзіра палку імя Кастуся Каліноўскага **Вадзім Кабанчук** (з дадатковай вайсковаю адзнакаю), куратарка кніжнай калекцыі Бібліятэкі імя Скарыны ў Лёндане **Караліна Мацкевіч**, камандзір палку імя Кастуся Каліноўскага **Дзяніс Прохараў** (дадатковай вайсковаю адзнакаю), дзеяч Згуртавання беларусаў Вялікай Брытаніі і адзін з кіраўнікоў Беларускага дабрачыннага фонду **Сяргей Пяткевіч**, удзельніца нацыянальнага руху пачатку 1980-х і непадцэнзурнага друку, журналістка **Алена Радкевіч**, сустаршыня руху салідарнасці “Разам” **Алена Талстая**, а таксама брытанскі навуковец **Алан Флаўэрс** і грамадскі актывіст, які шмат зрабіў у справе дабрачыннасці, медык **Сяргей Юрчанка** (Чэхія)”, – напісана ў сацсетках Рады БНР.

За ўнёсак у развіццё беларускай культуры і адукацыі Медалём Ордэну Пагоні ўзнагароджаныя аўтарка падручнікаў па беларускай мове для 1-6 класаў, беластоцкая настаўніца **Аліна Ваўранюк**, заснавальнік інтэрнэт-бібліятэкі і кіраўнік беластоцкай Фундацыі “Kamunikat.org” **Яраслаў Іванюк** і паэт **Андрэй Хадановіч**.

Таксама закрытым дэкрэтам Старшыня Рады БНР узнагародзіла Медалём за Баявыя Заслугі трох афіцэраў і чатырнаццаць байцоў Палку імя Кастуся Каліноўскага, аднаго афіцэра і адзінаццаць байцоў батальёну “Волат”, а таксама аднаго байца асобнай дэсантна-штурмавой роты “Беларусь” у складзе адной з брыгадаў Збройных сілаў Украіны.

“Аднаму з вайсковых арганізатараў, раней узнагароджанаму Медалём Ордэну Пагоні, нададзеная дадатковая вайсковая адзнака”, – адзначаецца ў сацсетках Рады БНР.

budzma.org

**навіны**

# "ЯНУШКЕВІЧ" ВЫДАЎ МАНАГРАФІЮ ПРА НАЦЫЯНАЛЬНЫ СЦЯГ

Нацыянальны сцяг мае багатую, драматычную, часам складаную, але і вельмі цікавую гісторыю, мяркуюць аўтары грунтоўнага выдання, якое літаральна днямі з'явілася ў выдавецтве "Янушкевіч".

Ідэя напісання калектыўнай манаграфіі па гісторыі беларускага нацыянальнага сцяга ўзнікла ў 2020 годзе, калі ўдзельнікі пратэстаў супраць сфальсіфікаваных прэзідэнцкіх выбараў і рэпрэсій, развязаных уладамі, пачалі масава выкарыстоўваць бел-чырвона-белыя сцягі. Тады стала відавочным, што акрамя нешматлікіх артыкулаў, пераважна публіцыстычнага характару, гэтая тэма грунтоўна навукова не даследавалася.

Недастатковая вывучанасць праблемы, як і немагчымасць сёння весці навуковыя дыскусіі па гэтай тэме, дазволілі ўладам распачаць шырокую кампанію па дыскрэдытацыі бел-чырвона-белага сцяга. Пры гэтым апаненты нацыянальнай сімволікі з ліку некалькіх прафесійных гісторыкаў нават не ставілі задачы навуковага вывучэння і аб'ектыўнага асэнсавання яе гісторыі.

Праблема ўскладнілася тым, што з падачы ўладаў Рэспублікі Беларусь тэма сімволікі цалкам перацякла ў палітычную плашчыню і была крыміналізаваная. Пераследуюць нават тых, хто выкарыстоўвае само спалучэнне нацыянальных бела-чырвона-белых колераў.

Кніга "Бел-чырвона-белы. Сцяг – нацыя – ідэнтычнасць" не закрывае ўсіх праблем, звязаных з гісторыяй бел-чырвона-белага сцяга, тлумачаць аўтары выдання, але яна закліканая пакласці першы камень у пачатак далейшых навуковых даследаванняў гэтай актуальнай і жыццёва важнай для Беларусі тэмы.

Выданне пачынаецца з аналізу вытокаў і сімвалізму бел-чырвоных колераў у беларускай вексілалогіі, працягваецца гістарычным аглядам – штандарамі паўстанцаў 1863-1864 гадоў; біяграфіяй Дуж-Душэўскага; перыядам Заходняй Беларусі; аналізам нямецкіх дакументаў, якія тычыцца




нацыянальнай сімволікі у Другую сусветную вайну; ужываннем сцяга на эміграцыі і ў перыяд новай хвалі беларускага адраджэння (канца 1980-х – пачатку 1990-х).

Людзі, якія адстойваюць сцяг у найцяжэйшых умовах, з поўным правам могуць лічыцца нацыянальнымі героямі. Адным з іх бясспрэчна з'яўляўся гісторык Уладзімір Ляхоўскі (1964–2021), які не толькі даскканала, на аснове архіўных крыніц, ведаў гісторыю сцяга, але і не баяўся дзяліцца гэтымі ведамі з грамадствам. Працуючы ў архівах розных краін, ён сабраў неацэнны дакументальны матэрыял па нацыянальнай сімволіцы і да канца свайго жыцця імкнуўся напісаць працу пра сцяг, але не паспеў…

Разам з тым гісторык Ляхоўскі пакінуў вялікую навуковую спадчыну, без якой стварэнне гэтага выдання было б немагчымым. Заключная глава выдання ўяўляе сабой апошняе інтэрв'ю з гісторыкам Уладзімірам Ляхоўскім.

Аўтары спадзяюцца, што кніга зацікавіць сумленных даследчыкаў гісторыі Беларусі XX–XXI стагоддзя і заахвоціць іх да далейшых архіўных росшукаў, напісання тэкстаў і зацікаўленага абмеркавання.

Выданне "Бел-чырвона-белы. Сцяг – нацыя – ідэнтычнасць" мае 312 старонак, цвёрдую вокладку, фармат 170х240 мм.

reform.by



# У ВІЛЬНІ АДКРЫЛІ ПОМНІК КАСТУСЮ КАЛІНОЎСКАМУ І ЯГОНЫМ ПАПЛЕЧНІКАМ

22 сакавіка – 160 гадавіна пакарання смерцю беларускага нацыянальнага героя Кастуся Каліноўскага. Помнік, што паўстаў насупраць уваходу ў Францішканскі касцёл, нагадвае пра прысягу паўстанцаў перад Богам і Радзімай, што адбылася тут перад пачаткам Студзеньскага паўстання.

Помнік паўстаў з ініцыятывы літоўскіх і польскіх каталікоў.

Ва ўрачыстай імшы з нагоды адкрыцця ўзялі ўдзел і беларускія святары Аляксандр Кухта і Георгій Рой.

На адкрыцці было шмат польскіх харцэраў, актывістаў польскага саюза на Літве, літоўскіх маладзевых каталіцкіх арганізацый, вайскоўцаў, былі і літоўскія палітыкі. Прыйшла калона вайскоўцаў НАТА.

Беларуская суполка была прадстаўлена невялікай колькасцю актывістаў, але дзе-нідзе можна было ўбачыць і нашыя нацыянальныя сцягі.

budzma.org

# У СТАКГОЛЬМЕ ПАЧАЛІ ВЫКЛАДАЦЬ НАШУ МОВУ

У сталіцы Швецыі днямі распачала працу першая школьная група па вывучэнні беларускай мовы. Праграма для яе была адмыслова створаная муніцыпальнымі школамі горада пры ініцыятыве Асацыяцыі беларусаў Швецыі. Пра гэта паведамляе Прадстаўніцтва па замежных справах АПК.

"Гэта важны прэцэдэнт, які створыць магчымасць рабіць падобнае і ў іншых рэгіёнах Швецыі", – гаворыць сябра Рады Асацыяцыі беларусаў Швецыі, прадстаўнік Народных Амбасадаў Беларусі ў Швецыі Зміцер Васэрман.

"Прарыўным з'яўляецца тое, што гаворка не ідзе пра дадатковыя факультатыўныя заняткі. Беларуская мова для школьнікаў, у якіх хаця б адзін з бацькоў размаўляе па-беларуску – сапраўдны школьны прадмет, за які дзеці атрымліваюць акадэмічныя балы, што пазней будуць залічвацца пры ўступе да гімназіі", – распавядае Зміцер Васэрман.

Шлях да стварэння такой магчымасці быў няпросты: трэба было пашырыць тлумачэнне правілаў і зняць абмежаванне па мінімальнай колькасці вучняў для адной школы.

Акрамя таго, Асацыяцыя беларусаў Швецыі дапамагла знайсці настаўніцу беларускай мовы, што з'яўляецца выклікам у невялікай беларускай дыяспары ў Швецыі.

"Швецыя ўсведамляе важнасць захавання нацыянальнай ідэнтычнасці беларусаў у якасці альтэрнатывы "рускаму міру", які нясе пагрозу ўсяму цывілізаванаму свету", – дадае Зміцер Васэрман.

budzma.org

**Дзень Волі**

# ДЗЕНЬ ВОЛІ Ў БАТУМІ: НЕ АПУСКАЕМ РУК, ПЕРАМОГА БЛІЗКА!

Беларусы Батумі адзначылі Дзень Волі шэсцем з бел-чырвона-белымі сцягамі, урачыстым мітынгам-канцэртам і кірмашом беларускіх сувеніраў на плошчы Еўропы.

У мітынгу таксама ўзялі удзел прадстаўнікі грузінскай грамадзянскай супольнасці і ўкраінскай дыяспары.

Удзельнікі ўшанавалі хвілінай маўчання памяць усіх ахвяр барацьбы з імперыяй, казалі пра важнасць супольнай барацьбы нашых народаў за свабоду і ўзаемнай падтрымкі на гэтым шляху. Заслухалі і відэазварот Зянона Пазьняка.

“Робім беларускія справы, не апускаем рук, перамога блізка. Жыве Беларусь, слава Украіне, Сакартвэлос гаўмарджос!” – так скончыў сваю прамову старшыня ГА “Беларуская дыяспара ў Аджарыі” Аляксей Балашоў.

Падчас акцыі адбываўся збор ахвяраванняў, якія будуць падзелены пароўну на падтрымку беларускіх палітвязняў, ваяроў беларускага добраахвотніцкага корпусу ва Украіне і беларускага культурнага цэнтру ў Батумі.

Над плошчай прагучалі вершы Уладзіміра Караткевіча і Стася Карпава, а спеўны сход выканаў гімн БНР “Ваяцкі Марш” (“Мы выйдзем шчыльнымі радамі”).



Напрыканцы ўдзельнікі імпрэзы сабраліся ў святочны карагод, а потым, пад гукі песні Змітра Вайцюшкевіча “Наш Сцяг”, утварылі нацыянальны сцяг з белых і чырвоных ліхтарыкаў.

novychas.online



# ДЗЕНЬ ВОЛІ Ў ЭДМАНТАНЕ

Аддзяленне ЗБК у Альберце і беларусы Эдмантана правялі першы сёлета пікнік, прысвечаны Дню Волі і Гуканню вясны 17 сакавіка.

Гэта падзея становіцца традыцыйнай для невялікай групы беларусаў Эдмантана.

belarusians.ca



# У НЬЮ-ЁРКУ АДЗНАЧЫЛІ ДЗЕНЬ ВОЛІ

24 сакавіка ў саборы імя святога Кірылы Тураўскага ў Брукліне адбылося святкаванне сто шостых угодкаў абвяшчэння Незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі.

На імпрэзу сабралася шмат гасцей з Нью-Ёрку, Нью-Джэрсі, Пенсільваніі, акругі Калумбія. Былі зачытаныя вітальныя словы, віншаванні, і напрыканцы адбыўся святочны канцэрт.

Раніца распачалася ў беларускай царкве ў Брукліне з урачыстай літургіі. Прысутныя маліліся за Беларусь, а таксама за тых, хто змагаўся і працягвае барацьбу за яе свабоду.

А дванаццатай гадзіне апоўдні ўдзельнікі спусціліся ў грамадскую залу. Там, пасля святочнага абеду, распачалася афіцыйная частка імпрэзы.

Прысутныя заслухалі прывітальнае слова Старшыні Рады БНР Івонкі Сурвіллы. Пасля выступілі старшыня Беларуска-Амерыканскага Задзіночання (БАЗА) – Наталля Федарэнка, сябра Рады БНР і магістар гісторыі – Ганна Сурмач, ад парафіі – Расціслаў Гарошка, старшыня згуртавання “Пагоня” Віталь Зайка, салістка трыа “Казакі” Вольга Казак-Анлар і прадстаўніца БАЗА-Вашынгтон Алеся Сёмуха-Грынберг.

Канцэртную частку ўзялі на сябе Kozak Trio. Музыкі спявалі беларускія песні і разам з прысутнымі танчылі ў святочнай зале.

Імпрэза выдалася цікавай і ўзнёслай. Напрыканцы ўсе праспявалі духоўны гімн Беларусі “Магутны Божа”.

bielarus.info



**Дзень Волі**

# МЭР ФІЛАДЭЛЬФІІ АФІЦЫЙНА ПРЫЗНАЧЫЛА 25 САКАВІКА ДНЁМ БЕЛАРУСКАЙ СПАДЧЫНЫ

Ганаровая цырымонія прайшла 25 сакавіка падчас святкавання Дня Волі каля будынку мэрыі.



У Дзень Волі беларусы Філадэльфіі прыйшлі да будынка мэрыі горада, каб адсвяткаваць яго разам з прадстаўнікамі адміністрацыі горада. Над Сіці-Холам прагучалі гімн "Магутны Божа", "Купалінка" і песні на беларускай мове гурта з Філадэльфіі Zaraz.

Падчас святкавання кіраўнік па стратэгічных адносінах і праграмах Офіса па справах імігрантаў мэрыі Філадэльфіі Алан Джоінвіл перадаў кіраўніку суполкі Belarus Freedom – Philadelphia Сержуку Шалігу пракламацыю аб абвяшчэнні 25 сакавіка Днём беларускай спадчыны ў Філадэльфіі.

"У выніку нядаўняй беларускай міграцыі з'явіліся новыя арганізацыі, такія як Belarus Freedom – Philadelphia. Гэта некамерцыйная арганізацыя, заснаваная ў 2023 годзе, мае двайную місію: папулярызацыю беларускіх культуры і гісторыі і адначасова адстойвае дэмакратычныя рэформы ў Беларусі. 25 сакавіка 2024 года горад Філадэльфія далучаецца да беларускай суполкі, ахоўнікам дэмакратыі і абраным афіцыйным асобам, каб адзначыць Дзень беларускай спадчыны ў гонар беларусаўамерыканцаў Філадэльфіі", – адзначыла мэр горада Шырэль Паркер.

Сяржук Шаліга падзякаваў ад імя ўсіх беларусаў Філадэльфіі за гэтае ганаровае ўшанаванне беларускіх традыцый і святаў.

"Гэта таксама ганаровы акт прызнання дзейнасці беларускай суполкі гарадскімі ўладамі," – дадаў ён.

Пасля ўрачыстага святкавання прадстаўніцтва Belarus Freedom – Philadelphia разам з прадстаўнікамі Офіса па справах імігрантаў абмеркавалі шляхі супрацоўніцтва на будучыню. Сярод ідэй былі запрашэнні беларусаў удзельнічаць у праграмах святкавання дзён культуры, у гарадскіх сацыяльных праектах. Гарадскія ўлады Філадэльфіі адзначылі, што яны адкрытыя для любых прапаноў і гатовыя дапамагаць ва ўсім, што дасць беларускай суполцы падтрымку ў захаванні сваёй спадчыны.

**budzma.org**

## ДЗЕНЬ ВОЛІ У ТАРОНТА

У 106 гадавіну абвешчанай незалежнасці Беларусі беларусы Таронта прайшліся маршам, заклікаючы да свабоды Беларусі і перамогі Украіны. Бела-чырвона-белыя і жоўта-блакітныя сцягі луналі на таронтаўскіх вуліцах на знак надзеі і моцы.

Пасля маршу ўдзельнікі працягнулі святкаванне ў цэнтры, дзе была зладжаная фотавыстава здымкаў з мінулых адзначэнняў Дня Волі ў Канадзе. У тым самым цэнтры таленавітыя выступоўцы – беларускі фальклорны гурт "Яваровы Людзі" і Валянціна Шаўчэнка – зладзілі адмысловы канцэрт.

Дзень скончыўся цёплымі гутаркамі, абмеркаваннямі і дыскусіямі вакол беларускай гісторыі.

Супольна адзначыўшы Дзень Волі, беларусы Таронта мацней адчулі адданасць і салідарнасць у змаганні за свабоду беларусаў і украінцаў.

**Паводле belarusians.ca**





**кніга**

# АЛЕСЬ БЕЛЫ НАПІСАЎ КНІГУ ПРА ГАБРЭЙСКУЮ І БЕЛАРУСКУЮ КУХНІ

"Самы цымус" – новая кніга Алеся Белага, якая выйдзе ў выдавецтве Gutenberg. У кнізе сабраныя 15 нарысаў і некалькі дзясяткаў арыгінальных рэцэптаў габрэйскай і беларускай кухні.

"На свеце напісана і выдадзена процьма кніг пра габрэйскую кухню. Самых розных – сур'ёзных, вясёлых, лёгкіх, грунтоўных, мудрагелістых, трагічных…

А пра гісторыю кухні беларускай кніг зусім няшмат.

І вось новая кніга, незвычайная. Пра габрэйскую і беларускую кухню адначасова. І нават болей: пра кухню трох гістарычных персанажаў, што да пары жылі на адной зямлі: селяніна, пана, местачковага рамесніка і гандляра. Як такое магчыма?", – распавядаюць выдаўцы ў сацсетках.

Мастацкае афармленне кнігі зрабіў ілюстратар Юрый Таўбкін. Перадзамова даступная праз сайт выдавецтва. Сама кніга выйдзе у свет 25 красавіка.

**budzma.org**

Дзень Волі

# 25 САКАВІКА Ў РЫЗЕ АДСВЯТКАВАЛІ РАЗАМ З УЛАДЗІМІРАМ АРЛОВЫМ

Латвійскае таварыства беларускай культуры "Сьвітанак" традыцыйна запрасіла беларусаў у Рызе разам адзначыць 106-я ўгодкі Акту 25 Сакавіка.



Гэтая дата абавязкова штогод адзначаецца ў Рызе на працягу ўсіх 35 гадоў з моманту заснавання нашага таварыства. Імпрэзу зладзілі 23 сакавіка ў Вялікай зале будынку Асацыяцыі нацыянальных культурных таварыстваў Латвіі з удзелам цэлай беларускай дэлегацыі з Беластоку! Гэтым разам шаноўнымі гасцямі ў Рызе былі знакаміты пісьменнік і гісторык Уладзімір Арлоў, музыка і кампазітар Раман Арлоў і кіраўнік Фонду Kamunikat.org, стваральнік найбуйнейшай у свеце беларускай інтэрнэт-бібліятэкі Яраслаў Іванюк. З такой нагоды неабыякавых да беларускай гісторыі, літаратуры ды песень сабралася поўная зала.

Пасля традыцыйнага выканання ўсімі прысутнымі дзяржаўнага гімна Латвіі "Dievs, svēti Latviju" і неафіцыйнага гімна Беларусі "Магутны Божа" на пачатку імпрэзы гасцей прывітала старшыня таварыства "Сьвітанак" Таццяна Казак, а Вячка Целеш прачытаў усім прысутным дасланае віншаванне з Днём Волі ад старшыні Рады БНР Івонкі Сурвіллы.

Упершыню павіншаваць беларусаў з найвялікшым святам на "сьвітанкаўскую" імпрэзу завітаў Надзвычайны і Паўнамоцны амбасадар Латвійскай рэспублікі ў Беларусі спадар Эйнарс Сэманіс. З улікам цяперашніх адносін паміж Латвіяй і нашай этнічнай Радзімай і зачыненых амбасад, спадар Амбасадар знаходзіцца ў Рызе, а не ў Мінску, і з'яўляецца сталым наведвальнікам беларускіх імпрэз у Латвіі. У сваім прывітальным слове ён выказаў упэўненасць у тым, што беларусы ў хуткім часе змогуць гэтак жа свабодна, шырока і ўрачыста святкаваць 25 Сакавіка, як усе латвійцы святкуюць 18 лістапада – Дзень абвяшчэння незалежнай Латвійскай рэспублікі ў 1918 годзе.

Шаноўным госцем на свяце таксама быў беларускі дзеяч з Лондана Васіль Еўдакімаў, які адмыслова прыляцеў у Рыгу, каб пазнаёміцца з нашым таварыствам ды сустрэцца з сваім даўнім сябрам Уладзімірам Арловым. Спадар Васіль з'яўляецца адным з кіраўнікоў беларускай супольнасці ў Вялікабрытаніі і аўтарам кніг пра Беларусь на беларускай і англійскай мовах.

Галоўны ж госць святкавання Уладзімір Арлоў вельмі цікава распавядаў пра тое, як Беларусь ішла да Акту 25 Сакавіка ў 1918-м: пра паўстанне Каліноўскага, Ігната Грынявіцкага, "Нашу долю" і "Нашу Ніву", пачатак Першай сусветнай вайны і падрабязна пра абвяшчэнне БНР.

Падчас творчай сустрэчы з Уладзімірам Арловым прысутныя маглі пачуць не толькі аповед пра гісторыю БНР. Аўтар прэзентаваў перавыдадзеныя Фондам Kamunikat.org свае шматлікія вядомыя кнігі "Імёны Свабоды", "Незалежнасць – гэта…", "Ордэн Белай мышы", "Айчына" і іншыя папулярныя выданні, чытаў урыўкі з сваіх твораў і шмат жартаваў.

Музыка і кампазітар Раман Арлоў, сын пісьменніка, выканаў патрыятычныя беларускія песні свайго аўтарства на гістарычную тэматыку. Спевы былі вельмі цёпла прынятыя латвійскай публікай. Спадар Раман выступаў у Рызе ўпершыню, але як выканаўца і аўтар песень даўно і добра вядомы беларусам як удзельнік знакамітага беларускага гурта "J:Mors".

Кіраўнік Фонду Kamunikat.org, стваральнік найбуйнейшай у свеце беларускай інтэрнэт-бібліятэкі Яраслаў Іванюк распавядаў пра гісторыю стварэння бібліятэкі kamunikat.org і пра тое, як у апошнія гады інтэрнэт-бібліятэка ператварылася ў сапраўднае беларускае выдавецтва. Дзякуючы спадару Яраславу з 2021 года перавыдадзена вельмі шмат кніг Уладзіміра Арлова, а таксама іншых вядомых беларускіх пісьменнікаў, напрыклад, Уладзіміра Някляева. Андрэя Хадановіча і іншых, выйшла ў свет шмат новых выданняў. Зараз у інтэрнэт-бібліятэцы Kamunikat.org сабрана ўжо больш за 55 000 розных беларускіх публікацый (кніг, аўдыёкніг, газет, часопісаў, відэа і інш.) Арганізатарам прыезду да беларусаў ў Рыгу, а потым далей у Таллінн і Хельсінкі таксама з'яўляецца нястомны спадар Яраслаў Іванюк, які на працягу некалькіх дзесяцігоддзяў аддае шмат свайго часу і высілкаў беларускай справе ў Польшчы.

Акрамя падарункаў шаноўным гасцям, якія падрыхтавала кіраўніцтва ЛТБК "Сьвітанак", Уладзіміра Арлова яшчэ чакаў сюрпрыз, што зрабіла яму ягоная зямлячка, мастачка Вольга Якубоўская. Вядомая мастачка падаравала знакамітаму пісьменніку сваю цудоўную карціну.

З беларускімі песнямі на імпрэзе выступіў таксама Алег Целеш, сын Вячкі Целеша.

Па заканчэнні выступаў ды спеваў адбыўся кніжны кірмаш і аўтограф-сесія. Па аўтографы на набытых кнігах да спадара Ўладзіміра выстраілася доўгая чарга.

Традыцыйна пасля афіцыйнай праграмы гасцей і гаспадароў імпрэзы чакаў святочны сяброўскі стол у Камінным зале, дзе абмяркоўвалі беларускія справы ды магчымае супрацоўніцтва ў будучыні.

**svitanak.eu**

навіны

# ТАВАРЫСТВА "УЗДЫМ" АДЗНАЧЫЛА 80-ГОДДЗЕ ЯНІНЫ ЮЗЭФОВІЧ

У гасцёўні таварыства "Уздым" прадоўжыўся цыкл музычна-паэтычных вечарын "На лукавіне Даўгавы". Гэтым разам вечарына была прысвечаная 80-годдзю таленавітага музыканта, Прафесіянала з вялікай літары, дырыжоркі, кампазітаркі, спявачкі, кіраўніцы, настаўніцы, стваральніцы многіх калектываў і цудоўнага чалавека, якая прысвяціла таварыству "Уздым" больш за 30 гадоў – Яніны Юзэфовіч.

Дасведчаная, уважлівая, простая і шчырая ў размове, яна здзіўляе шырынёю творчых інтарэсаў, глыбінёю разважанняў, адухоўленасцю. Нашаму таварыству пашанцавала, што ў нас ёсць такая таленавітая кіраўніца гурта "Натхненне", якая сама калісьці вучылася ў вядомага беларускага кампазітара Ігара Лучанка.

Можна па-добраму зайздросціць шырокаму і разнастайнаму кругагляду Яніны Антонаўны, арыгінальных творчых народных музычных знаходак, яе музычнай нястомнасці. Гэтым вечарам ніхто не сумаваў. Яніна Антонаўна захоплена распавядала пра сваё дзяцінства і юнацтва, пра сваю працу настаўніцай музыкі, пра тое, як 30 гадоў таму назад яна стварала першы калектыў у таварыстве. Гучалі словы падзякі, добрыя пажаданні і прыгожыя беларускія песні. Аўтарам музыкі шэрагу гэтых песень з'яўляецца віноўніца ўрачыстасці. Сярод іх – песні на словы яе мужа Фёдара Ісаева і старшыні "Уздыму", паэткі Ліліі Воранавай, паэта Яўгенія Голубева. Павіншаваць юбілярку прыйшоў і знакаміты паэт Станіслаў Валодзька, з якім звязвае іх творчае супрацоўніцтва шмат гадоў. Станіслаў падрыхтаваў Яніне Антонаўне свой верш.

**uzdim.lv**



навіны

# АГУЛЬНАПОЛЬСКІ ФЕСТЫВАЛЬ БЕЛАРУСКАЙ ПЕСНІ: СОТНІ ЎДЗЕЛЬНІКАЎ, ГІСТОРЫЯ Ў ПАЎСТАГОДДЗЯ І АНШЛАГІ НА ГАЛА-КАНЦЭРЦЕ

Больш за 450 чалавек узялі ўдзел ва ўсіх этапах 31-га Агульнапольскага фестывалю "Беларуская песня 2024". Адборы лепшых спевакоў і танцораў праходзілі ў Бельску-Падляшскім, Гайнаўцы і іншых месцах Падляшскага ваяводства, а пераможцы – 37 калектываў і асобных выканаўцаў – з'ехаліся трэцяга сакавіка ў будынак філармоніі ў Беластоку, дзе праходзіў гала-канцэрт.



Гала-канцэрт беларускай песні ў Беластоку заўсёды мае вялікую папулярнасць. Калі нехта захацеў бы купіць білеты на яго за некалькі дзён да мерапрыемства, то яго б чакала няўдача: зала раскуплена. І сапраўды, усе месцы ў немалой залі ваяводскай філармоніі былі занятыя жадаючымі паслухаць беларускую песню і пабачыць, як спяваюць і танчаць пераможцы з Гайнаўкі, Бельска, Сямятычаў, Беластока і іншых мясцін Падляшша.

Гала-канцэрт распачаўся песняй "Мой беластоцкі край" на вершы паэта Аляксандра Баршчэўскага. Гэтая песня, дарэчы, своеасаблівы гімн беларускай Беласточчыны, які выконваецца даволі часта на падобных імпрэзах.

Пра гісторыю фестывалю "Беларуская песня", што сёлета ў 31-ы раз прайшоў у Польшчы, расказаў яго арганізатар, старшыня Беларускага грамадска-культурнага таварыства Васіль Сегень.

– Раней некалькі дзесяцігоддзяў праходзіў ён у рангу конкурсу. Наколькі я памятаю, больш за 60 гадоў існуе гэтае мерапрыемства. Тое, што мы бачым сёлета, паказвае, што яшчэ фестываль жыве і будзе развівацца, ісці ў новых напрамках з новымі людзьмі. Наогул больш за 450 чалавек узялі ўдзел ва ўсіх этапах нашага фестывалю. На гала-канцэрце – больш за 200 чалавек. Яшчэ ўпрыгожваем гэты наш гала-канцэрт танцамі вядомага танцавальнага ансамбля "Падляшскі вянок".

Колькасць удзельнікаў не змяншаецца, гэта ўжо плюс. Ці павялічваецца, цяжка мне зараз сказаць. Прыходзіць многа моладзі, моладзі добра падрыхтаванай, адукаванай у галіне музыкі і выкананні беларускай песні. І гэта таксама дае пазітыўныя думкі на будучыню.

**– У якіх жанрах прадстаўляюць сваю творчасць калектывы, выканаўцы?**

– Жанрава фестываль вельмі разнастайны – пачынаючы ад "белага спеву", звычайна гэта старэйшае пакаленне, але не толькі – ёсць моладзь, якая ў гэтым напрамку развівае сваю зацікаўленасць беларускай песняй ці музыкай, і завяршаючы такімі вельмі моцнымі ўдарамі – рокавым гучаннем некаторых ансамбляў. Мы не абмяжоўвалі ніколі жанрава, даем магчымасць свабоднага выканання беларускай песні ў сваёй інтэрпрэтацыі. І я думаю, гэта – багацце нашага фестывалю.

**– Беларуская дыяспара, якая значна вырасла за апошнія гады, нейкім чынам прадстаўлена на фестывалі?**

– Так, ужо некалькі гадоў запар з'яўляюцца артысты, якія нядаўна прыехалі да нас сюды на Беласточчыну ці ў Польшчу, і ўдзельнічаюць таксама ў нашым фестывалі. Праўда, гэта яшчэ не масавая з'ява, але ўжо ёсць такія ластаўкі, якія і гэтую вясну зробяць больш дыяспарнай, а не толькі нашай тут беларускасцю, прадстаўленай Падляшшам. Так што ёсць такія асобы, і дзякуй Богу, што яны да нас прыходзяць. Спадзяемся, іх будзе ўсё болей.

**– Пераможцы што атрымаюць?**

– Можна сказаць, што ўзнагарода – гэта магчымасць выступіць у такой прэстыжнай зале як Падляшская філармонія. Але ж на кожным этапе нашага фестывалю – і раённым адборачным конкурсе, і цэнтральным – камісія прызначае месцы, а за гэтымі месцамі ідуць узнагароды. За кожнае месца ўдзельнікі атрымліваюць прыз. Раней гэта былі грашовыя ўзнагароды, а зараз у выглядзе бонаў, білетаў у нейкія гандлёвыя сеткі. Таму што міністэрства не дазваляе нам грашыма выплочваць узнагароду.

radiounet.fm

# У ВІЛЬНІ ДАСАДЗІЛІ АЛЕЮ БЕЛАРУСІ

Арганізацыя "Сябрына" дасадзіла дрэвы на алеі, закладзенай яшчэ 23 лістапада 2021 году.




27 сакавіка на Алеі Беларусі з'явіліся новыя дрэвы. На месцы правялі невялікі мітынг. Адбылася і мастацкая частка – Вячка Красулін зайграў на беларускай дудзе, а калектыў беларусак у народных строях пад кіраўніцтвам Святланы Чакушкі праспяваў некалькі беларускіх народных песень.

У афіцыйнай частцы некалькі слоў сказалі арганізатар падзеі Валянцін Стэх, ініцыятар стварэння Беларускай алеі Гедрус Сурпліс, прэс-сакратарка Святланы Ціханоўскай Ганна Красуліна, беларускі гісторык Яўген Красулін. Яны гаварылі пра тое, што пратэсты 2020 году спарадзілі надзею на хуткія перамены ў Беларусі. І хоць надзеі пакуль не здзейсніліся, але гэтая алея – сімвал барацьбы за свабоду беларусаў і сімвал падтрымкі Літвы.

Алея складаецца з рабінавых дрэў. Арганізатары выбралі менавіта гэтае дрэва, "бо рабіна натхняе і нікога ня можа пакінуць абыякавым".

Дрэвы саджалі вучні Віленскай гімназіі імя Францішка Скарыны. Яны з вялікай цікавасцю слухалі аповеды ўдзельнікаў пратэстаў пра падзеі ў Мінску ў 2020 годзе.

svaboda.org

**in memoriam**

# ПАМЁР АЛЯКСЕЙ КАЎКА

Сумныя навіны прыйшлі з Расіі: памёр "галоўны беларус Масквы", вядомы беларускі гісторык, літаратуразнавец і грамадскі дзеяч, ганаровы сябра Вялікай Рады ЗБС "Бацькаўшчына" – доктар філалагічных навук Аляксей Каўка. Яму было 87 гадоў.




Нарадзіўся Аляксей Канстанцінавіч 20 верасня 1937 года на Чэрвеньшчыне, у 1961 годзе скончыў БДУ, але ад 1965 года жыў у Маскве, працуючы ў Інстытуце сусветнай літаратуры імя А. Горкага АН СССР і Інстытуце эканомікі сусветнай сацыялістычнай сістэмы АН СССР. Пэўны час быў галоўным рэдактарам часопіса "Савецкае славяназнаўства".

На пачатку навуковай дзейнасці Аляксей Каўка паспяхова даследаваў гісторыю Польшчы, польскага рабочага руху і савецка-польскіх адносін, быў дарадцам амбасады СССР у Польшчы. Але з канца 1970-х пераключыўся на праблему адраджэння і станаўлення нацыянальнай беларускай самасвядомасці – пачаў даследаваць творчасць Францыска Скарыны, Янкі Купалы, Кастуся Езавітава, Івана Луцкевіча, Вацлава Ластоўскага і Мікалая Улашчыка.

У 1976–1977 годзе Аляксей Каўка напісаў ананімны "Ліст да рускага сябра", палемічны твор, у якім выкрывалася палітыка русіфікацыі БССР. "Ліст да рускага сябра" распаўсюджваўся ў выглядзе самвыдату, трапіў у Польшчу, а адтуль у Лондан, дзе быў выдадзены таксама і па-англійску ў 1979 годзе і атрымаў вельмі вялікі розгалас.

Маючы дыпламатычны пашпарт, Аляксей Каўка перапраўляў на Захад беларускія творы, якія не маглі быць надрукаванымі ў БССР, у тым ліку знакамітую паштоўку Яўгена Куліка да 1000-годдзя Беларусі і таксама прысвечаны праблеме моўнай асіміляцыі беларусаў рукапіс кнігі сацыёлага Алега Бембеля "Родная мова і сацыяльны прагрэс", які быў выдадзены кнігай ў Лондане ў 1985 годзе.

Аляксей Каўка адыграў вялікую ролю ў арганізацыі Таварыства беларускай культуры імя Францыска Скарыны ў Маскве, першай афіцыйна ўтворанай суполкі беларускай дыяспары ў Расіі (заснаваная ў 1988 годзе), быў яе першым старшынём.

Ад 1991 года ўкладаў створаны на базе ТБК імя Францыска Скарыны літаратурна-навуковы альманах "Скарыніч", друкуючы ў ім навуковыя артыкулы і раней невядомыя архіўныя дакументы і рукапісы Мікалая Улашчыка, Язэпа Лёсіка, Аркадзя Смоліча, Івана Луцкевіча, Адама Бабарэкі, Язэпа Варонкі, Язэпа Дылы ды іншых дзеячаў беларускай навукі і культуры.

Акрамя навуковых публікацый Аляксей Каўка выдаў некалькі цікавых зборнікаў эсэістыкі, якія дапаўняюць яго навуковыя даследаванні дзейнасці беларускіх гістарычных асобаў аўтарскімі рэфлексіямі, а таксама ўтрымліваюць успаміны, з якіх, сярод іншага, можна дазнацца шмат цікавага пра жыццё беларускай дыяспары ў Маскве. Гэта ўмоўная трылогія "Жывом!" (1997), "Будам жыць!" (1998) і "Каб не забыцца" (2006), а таксама выдадзеная адмыслова да юбілею Таварыства беларускай культуры імя Францыска Скарыны ў Маскве "Мае беларусы" (2013).

Аляксей Каўка быў узнагароджаны медалём Францыска Скарыны і медалём да 100-годдзя БНР.

Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" смуткуе і выказвае шчырыя спачуванні родным і блізкім Аляксея Канстанцінавіча. Гэта вельмі вялікая страта для ўсіх беларусаў.

**ЗБС "Бацькаўшчына"**

## Беларускі каляндар памятных дат на красавік 2024 года

**4 красавіка**
- 120 гадоў таму, у 1904-м, нарадзіўся Юры Кашыра, каталіцкі святар, блаславёны. Спалены ў 1943-м.

**6 красавіка**
- 120 гадоў таму, у 1904-м, нарадзіўся Міола Хведаровіч, пісьменнік. Памёр у 1981-м.
- 25 гадоў таму, у 1999-м, памёр Генадзь Карпенка, палітык, вучоны.

**8 красавіка**
- 120 гадоў таму, у 1904-м, памёр Вацлаў Валодзька, палітык, гісторык.

**11 красавіка**
- 160 гадоў таму, у 1864-м, расстраляны Антон Алендскі, палявы камандзір паўстання 1863–1864 гг.

**16 красавіка**
- 65 гадоў таму, у 1959-м, памерла Зінаіда Бандарэнка, пісьменніца.

**18 красавіка**
- 210 гадоў таму, у 1814-м, нарадзіўся Яўстах Тышкевіч, адзін з заснавальнікаў беларускай навуковай археалогіі. Памёр у 1873-м.
- 115 гадоў таму, у 1909-м, нарадзіўся Лазар Ран, мастак. Памёр у 1988-м.

**20 красавіка**
- 190 гадоў таму, у 1834-м, нарадзіўся Іосіф Жылінскі, даследчык Палесся, геадэзіст. Памёр у 1916-м.

**22 красавіка**
- 70 гадоў таму, у 1954-м, памёр Сяргей Сахараў, этнограф.
- 30 гадоў таму, у 1994-м, у Мінску пачалася першая сустрэча беларускай моладзі свету.

**25 красавіка**
- 120 гадоў таму, у 1904-м, памёр Францішак Далеўскі, адзін са стваральнікаў Братняга саюза літоўскай моладзі.

**26 красавіка**
- Дзень памяці ахвяраў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС

**28 красавіка**
- 80 гадоў таму, у 1944-м, памёр Ільдэфонс Бобіч, рымска-каталіцкі святар, выдавец.

**30 красавіка**
- 30 гадоў таму, у 1994-м, набыла сілу Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь, прынятая 15 сакавіка 1994 г.



**Беларусы ў свеце**
№ 3 (262), сакавік 2024
Інфармацыйны бюлетэнь
Супольнасць беларусаў
свету "Бацькаўшчына"

Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.

Адказныя за нумар –
Н. Шыдлоўская,
А. Макоўская

Наклад 250 асобнікаў

zbsb.info e-mail: zbsb.minsk@gmail.com